# ЗА СВАБОДНАЕ ВЕРАВЫЗНАННЕ

Інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь

№23 красавік — чэрвень 2009


«... абяцаем тое сабе сумесна за нас і за патомкаў нашых на векі вечныя пад абавязкам прысягі, пад вераю, гонарам і сумленнем нашым, што мы, якія з'яўляемся рознымі ў веры, мір паміж сабой захоўваць, а ў сувязі з розніцай веры і адрозненнем у цэрквах крыві не праліваць і не караць адсуджэннем маёмасці, пазбаўленнем гонару, турэмным зняволеннем і выгнаннем, і ніякаму вяршэнству, ані ўраду, да такога ўчынка ніякім чынам не дапамагаць...»

**Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588. Гл.3, арт.3.**

# Людмілу Бацюк пакаралі штрафам за «стварэнне рэлігійнай арганізацыі»

***Прадпрымальніца дапамагала хворым на алкагалізм. Суд пакараў яе штрафам у памеры 140 тыс. беларускіх рублёў.***



11 траўня суд Кастрычніцкага раёна г.Магілёва пакараў штрафам у памеры чатырох базавых велічынь прадпрымальніцу Людмілу Бацюк. Яна дапамагала сем'ям, у якіх ёсць хворыя на алкагалізм. Суддзя Ірына Цяплова прызнала прадпрымальніцу вінаватай у стварэнні рэлігійнай арганізацыі. Ініцыяваў судовы працэс аддзел ідэалагічнай працы Кастрычніцкага райвыканкама Магілёва. Паводле чыноўнікаў, Бацюк сваімі дзеяннямі парушала Закон Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе сумлення і рэлігійных арганізацыях».

У судзе начальніца аддзелу ідэалагічнай працы Кастрычніцкага раёна Ірына Бацішчава аргументавала прэтэнзіі ўлады да Людмілы Бацюк тым, што Бацюк незаконным шляхам уцягвала людзей ў рэлігійную дзейнасць.

Людміла Бацюк не прызнала абвінавачванняў чыноўнікаў: «Мяне вінавацяць у тым, што я стварыла рэлігійную арганізацыю без рэгістрацыі. Гэта не адпавядае рэчаіснасці. Я дапамагаю людзям, у сем'ях якіх ёсць праблемы з алкаголем або наркотыкамі. Я сама прайшла гэтае пекла. Цяпер мэта майго жыцця — дапамагаць людзям, якія сёння пакутуюць,» — кажа Л. Бацюк.

«Яна праводзіла рэлігійныя сходы, дзе людзі маліліся, вывучалі Біблію, спявалі рэлігійныя песні, падчас сходаў праводзіліся рэлігійныя абрады і рытуалы, а таксама збіраліся ахвяраванні,» — «абвінавачваюць» жанчыну ідэолагі.

Чыноўнікі даведаліся аб дзейнасці прадпрымальніцы з абвестак на прыпынках грамадскага транспарту. У абвестках былі пазначаны яе тэлефоны і адрас. Чыноўніца Ірына Бацішчава разам з супрацоўнікамі свайго аддзелу і міліцыянерамі некалькі разоў наведвалася па пазначаным у абвестцы адрасе і заспявала там групу людзей з васьмідзесяці чалавек. Гэтыя людзі сядзелі за сталом, на якім была раскладзена рэлігійная літаратура. Сцены пакоя былі абклеены рэлігійнымі карцінамі. Усіх прысутных дастаўлялі ў міліцыю — там яны давалі тлумачэнні аб мэтах свайго знаходжання ў доме прадпрымальніцы. Людміла Бацюк кажа, што наведванне міліцы ў яе дом і фатаграфаванне адбываліся са шматлікімі парушэннямі.

Тым не менш, суддзя Ірына Цяплова палічыла аргументы начальніцы аддзелу ідэалагічнай працы больш абгрунтаванымі і пастанавіла пакараць Людмілу Бацюк за стварэнне рэлігійнай арганізацыі штрафам у памеры чатырох базавых велічынь — гэта 140 тыс. рублёў.

Фактычна, жанчыне ставяць у віну тое, што ў сваёй дзейнасці Людміла Бацюк выкарыстоўвала хрысціянскія метады лячэння алкагалізму. Методыкі, якія яна выкарыстоўвала ў працы, маюць пазітыўныя водгукі з Міністэрства аховы здароўя Беларусі. Людміла Бацюк не лічыць сябе вінаватай і заяўляе, што працягне сваю дзейнасць:

«Я веру ў справядлівасць. Я дапамагаю сем'ям, у якіх ёсць залежныя ад алкаголю або наркотыкаў. Камусьці гэта не спадабалася, так з'явілася скарга, дзе было сказана, што я ствараю рэлігійную арганізацыю без дзяржаўнай рэгістрацыі. Я прадставіла ўсе дакументы ў сваё апраўданне. І я не разумею, чаму мяне так зняважылі».

На суд, каб падтрымаць Людмілу Бацюк, прыйшлі людзі, якім яна дапамагае.

Магілёвец Аляксандар Сілкоў пасля наведвання курсаў спадарыні Бацюк не п'е ўжо амаль два гады:

«Я цягам трыццаці гадоў быў алкаголікам. Цяпер наладзіліся стасункі ў сям'і. І любоў, і гармонія з'явіліся, ды павага на працы, у калектыве. Людміла бясплатна дапамагае алкаголікам, а ёй яшчэ ставяць палкі ў колы».

Мужа Ганны Станкевіч васемнаццаць разоў кадзіравалі ад алкагольнай залежнасці:

«Я выйшла замуж за залежнага чалавека. Гэты чалавек усё жыццё бадзяўся па турмах. Учора ён прывёз мне грошы са сваіх заробкаў. Самае галоўнае, што ён прыехаў цвярозы. Дзякую Богу, што Людміла мне дапамагла».

Каментуючы рашэнні суда, юрыст Дзіна Шаўцова адзначыла, што суддзя Ірына Цяплова прыняла сваё рашэнне на падставе часткі 1 артыкула 9.9 Кодэкса пра адміністрацыйныя правапарушэнні. Аднак, як мяркуе юрыст, ужыванне мер адміністрацыйнай адказнасці, прадугледжаных ч. 1 арт. 9.9 КПАП за дзейнасць, звязаную з распаўсюдам рэлігійных перакананняў, супярэчыць артыкулу 31 Канстытуцыі, якая гарантуе грамадзянам права на свабоду сумлення і рэлігіі, а таксама артыкулу 18 Міжнароднага пакта пра грамадзянскія і палітычныя правы.

Дакументы па справе Людмілы Бацюк можна знайсці на сайце www.forreligiousfreedom.info.

# Улады Любані знішчылі драўляную сінагогу

## На пратэсты ніхто не звярнуў увагі





***У г. Любань Мінскай вобласці мясцовыя ўлады разбурылі драўляную сінагогу, нягледзячы на пратэсты мясцовых жыхароў. Гэта адбылося 13 траўня. Разбурэнню драўлянай сінагогі папярэднічаў безвыніковы зварот старшыні Сусветнай арганізацыі беларускіх габрэяў Якава Гутмана да Аляксандра Лукашэнкі. Якаў Гутман заклікаў прэзідэнта Беларусі неадкладна спыніць працы па разборцы сінагогі пачатку XX ст. ў горадзе Любань.***

У лісце ад 26 красавіка на імя кіраўніка беларускай дзяржавы Гутман паведамляе, што ў 1996 г. САБГ пры падтрымцы мясцовых улад усталявала на будынку сінагогі мемарыяльную дошку ў гонар Моше Файнштэйна — аднаго з самых вядомых рабінаў XX стагоддзя. Акрамя таго, па словах Гутмана, райвыканкам прыняў рашэнне аб прысваенні адной з вуліц горада імя Файнштэйна, прызнанага сусветным лідарам артадаксальнага габрэйства. Калі Файнштэйн памёр у Амерыцы ў 1986 годзе, каля 60 тысяч габрэяў ішлі за ягонай труной Нью-Ёрку, а ў пахаванні рабіна ў Ізраілі ўдзельнічала 150 тысяч чалавек. Усё, што звязана з імем Моше Файнштэйна, святыня для габрэяў усяго свету, гаворыцца ў лісце.

Якаў Гутман адзначае, што разбурэнне сінагогі ў Любані будзе расцэнена як працяг знішчэння юдзейскіх храмаў на вуліцах Дзімітрава, 3, і Няміга ў Мінску, габрэйскіх могілак у Гродна і Мазыры, памятнага знака на месцы самаспалення мазырскіх габрэяў падчас Вялікай Айчыннай вайны. «Хацелася б верыць, што сітуацыя ў Любані склалася з-за неразумення мясцовых улад і не з’яўляецца палітыкай дзяржавы», — адзначае Гутман.

У Любані захаваліся дзве сінагогі, што стаяць побач — унікальныя ўзоры юдзейскай драўлянай культавай архітэктуры канца XIX і пачатку XX ст.ст. Абодва храмы звязаныя з дзейнасцю Файнштэйна. Мясцовыя ўлады вырашылі знесці і другую сінагогу, пабудаваную ў XX стагоддзі. У сувязі з гэтым 21 красавіка старшыня Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч пісьмова прапанаваў Любанскому райвыканкаму звярнуцца ў Міністэрства культуры з ініцыятывай надаць будынку пакінутай сінагогі статус гісторыка-культурнай каштоўнасці, паколькі сёння падобных храмаў у Беларусі засталося вельмі мала.



Яшчэ стагоддзе назад толькі ў Гародні працавала 44 сінагогі. Зараз у Беларусі захаваліся толькі 100 такіх храмаў. Драўляных сярод іх — адзінкі.

**Паводле матэрыялаў БелаПАН, «Радыё «Свабода».**

# ЗША заявілі пра прыгнёт рэлігій у Беларусі

***Камісія ЗША па свабодзе веравызнання ў свеце (USCIRF) заявіла пра прыгнёт рэлігій у Беларусі і Расіі. Двухпартыйная камісія з'яўляецца органам федэральнай улады ЗША і падае рэкамендацыі Кангрэсу, прэзідэнту і дзяржсакратару.***

Паводле справаздачы камісіі, расійскае «міністэрства юстыцыі валодае беспрэцэндэнтнай уладай, з дапамогай якой кантралюе рэлігійныя аб'яднанні і сочыць за імі». Пры гэтым у краіне «ўзрастае колькасць парушэнняў свабоды веравызнання, асабліва ў стаўленні да мусульман і прадстаўнікоў так званых «нетрадыцыйных рэлігій'». Нароўні з Расіяй у спіс камісіі патрапілі таксама Беларусь, Таджыкістан, Турцыя, Куба, Венесуэла, Егіпет, Самалі, Афганістан, Лаос.

Асобна адзначаны краіны, у якіх дзеянні ці бяздзейнасць улад прывялі да масавых сутыкненняў на рэлігійнай глебе. Гэта Нігерыя, Эфіёпія, Кітай, Паўночная Карэя, М'янма, В'етнам, Туркменія, Узбекістан, Іран, Ірак, Пакістан, Саудаўская Аравія і Судан. Пры гэтым камісія рэкамендавала Дзяржпдэпартаменту ЗША ўвесці розныя санкцыі супраць гэтых краін.

Адзінай краінай, у якой камісія адзначыла паляпшэнне сітуацыі са свабодай веравызнання, стала Бангладэш.

Прадстаўнікі Камісіі ЗША па свабодзе веравызнання ў свеце і лідэр Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Віталь Рымашэўскі дамовіліся, што Беларусі, з боку Камісіі, будзе нададзена адмысловая ўвага. Гэта дамоўленасць дасягнута падчас візіту В. Рымашэўскага ў ЗША.

# Пратэстанту пагражаюць штрафам за распаўсюд Бібліі

***Пятру Маланачкіну з Горак пагражае адміністрацыйны штраф за распаўсюд інфармацыі рэлігійнага зместу. Мясцовы аддзел унутраных спраў вінаваціць верніка ў «загрувашчванні» адной з вуліц горада стэндам з Бібліямі.***

Пра гэта Пятру Маланачкіну падчас складання пратакола аб адміністрацыйным правапарушэнні паведаміў старшы лейтэнант міліцыі Р.В.Цэрбаў.

Па словах супрацоўніка міліцыі, верніка вінавацяць у парушэнні пункта 14 артыкула 21 Адміністрацыйнага кодэкса, паводле якога прадугледжваецца адказнасць у выглядзе накладання штрафу ад 4 да 25 базавых велічынь (каля 140 — 875 тысяч беларускіх рублёў) за загрувашчванне вуліц, пляцаў, двароў, іншых земляў грамадскага карыстання.

Падставай для абвінавачвання стаў інфармацыйны стэнд, які Пётр Маланачкін зрабіў каля пяці гадоў назад і размясціў паміж дрэвамі на тратуары Інтэрнацыянальнага праспекта ў Горках.

На стэндзе, які неаднаразова ламалі невядомыя, увесь гэты час выстаўляліся кнігі, часопісы, брашуры рэлігійнага зместу, а таксама Евангеллі, якія кожны мог браць бясплатна.

Маланачкін перакананы, што не парушаў заканадаўства, паколькі ягоная інфармацыйная выстава не замінала ні руху транспарта, ні пешаходам.

**www.horki.info**










# Беларусы вераць царкве і арміі

Паводле дадзеных сацыялагічнага цэнтра «Зеркало-инфо», самым высокім рэйтынгам даверу ў Беларусі зараз карыстаецца царква — 58%. У яе ж і самы высокі рэйтынг «поўнага даверу» — 40%. Далей ідзе войска — 45 і 24% адпаведна.

Самыя нізкія рэйтынгі «недаверу» маюць АБСЕ — 25% і ААН — 26%. У іх жа і самыя нізкія рэйтынгі абсалютнага недаверу («не давяраю зусім» — па 9%).

Самы высокі рэйтынг недаверу маюць мясцовыя органы ўлады — 53%, апазіцыя — 52%, а таксама традыцыйныя прафсаюзы, міліцыя і дзяржаўныя СМІ (па 49%). Практычна кожны другі дарослы грамадзянін не давярае ім.

Параўнанне рэйтынгаў даверу і недаверу дазваляе заўважыць, што пазітыўны інтарэс маюць прадстаўнікі 4-х арганізацый: царква (+28) і войска (+8), ААН (+11) і АБСЕ (+8).

Прадстаўнікік іншых структур атрымалі негатыўны індэкс. А найбольшыя з іх — апазіцыя (–28), традыцыйныя прафсаюзы (–22) і мясцовыя органы ўлады (–19).

# Пагадненне паміж Беларуссю і Ватыканам можа быць падпісана ў бліжэйшы час



***Пра гэта заявіў упаўнаважаны па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леанід Гуляка. Пытанне набыло новую вастрыню пасля сустрэчы з папам рымскім у Ватыкане кіраўніка Беларусі. Аляксандр Лукашэнка меў сустрэчу з дзяржсакратаром Ватыкана кардыналам Тарчызіё Бэртонэ, падчас якой бакі абмеркавалі падрабязнасці падпісання пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Ватыканам.***

Тарчызіё Бэртонэ ў мінулым годзе пабываў у Беларусі з пяцідзённым візітам, у ходзе якога ён наведаў тры дыяцэзіі Беларускага каталіцкага касцёла, правёў перамовы з праваслаўным мітрапалітам Філарэтам і беларускімі ўладамі. Апрача іншага, ён дамовіўся з беларускімі ўладамі аб падрыхтоўцы Канкардату паміж афіцыйным Мінскам і Ватыканам і атрымаў запрашэнне ад Аляксандра Лукашэнкі для папы рымскага Бенедыкта XVI наведаць Беларусь.

У сваю чаргу прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка задаволены адносінамі, якія складаюцца паміж дзяржавай і Рымска-каталіцкай царквой: «Я задаволены тым, як складаюцца адносіны ў свецкай улады з уладай духоўнай. Мы зробім усё неабходнае для таго, каб гэтыя адносіны ўзмацняліся і былі больш трывалыя», — заявіў А.Лукашэнка, сустракаючыся з мітрапалітам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рымска-каталіцкай царквы ў Беларусі арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам. «Я не магу прад’явіць якіх-небудзь прэтэнзій да каталіцкай царквы. Мой візіт у Ватыкан сведчыць пра тое, што мы будзем падтрымліваць каталіцкую царкву», — адзначыў кіраўнік беларускай дзяржавы.

Звяртаючыся да Т.Кандрусевіча, А.Лукашэнка сказаў: «Ваша дзейнасць у Беларусі накіравана на тое, каб тут было спакойна. Мы высока шануем місію каталіцкай царквы і асабіста вашу місію». Па словах кіраўніка дзяржавы, «у нас склалася добрая традыцыя па кантактах прэзідэнта з нашымі асноўнымі канфесіямі». «Гэта добрая традыцыя», — падкрэсліў А.Лукашэнка.

Падчас сустрэчы з мітрапалітам Т. Кандрусевічам прэзідэнт узгадаў сваю нядаўнюю сустрэчу з патрыярхам Маскоўскім і ўсея Русі Кірылам: «Патрыярх шмат распавядаў пра цяперашняга папу рымскага, пра вас, пра ўзаемадзеянне Праваслаўнай і Рымска-каталіцкай цэркваў».

«Мяне ўзрадавала тое, што патрыярх скіраваны на ўз’яднанне хрысціянства. Мы павінны быць бліжэй, а супярэчнасці, непаразуменні вырашаць так, каб не разарваць хрысціянскі свет», — адзначыў прэзідэнт Беларусі.

У сваю чаргу арцыбіскуп Т.Кандрусевіч падкрэсліў, што паміж дзяржавай і Рымска-каталіцкай царквой ёсць паразуменне: «Мы ідзем наперад, ёсць дынаміка ў развіцці ўзаемнага дыялогу». «Мы толькі што адсвяткавалі Вялікдзень, і прамая трансляцыя набажэнства ў мінскім архікафедральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі транслявалася па ТБ, — сказаў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі. — Такім чынам прыняць удзел у гэтай імпрэзе змаглі шматлікія жыхары краіны, у каго не было магчымасці наведаць касцёл». Арцыбіскуп адзначыў важнасць таго, што беларускае радыё па нядзелях транслюе з гэтага касцёла набажэнствы на беларускай мове.

**Паводле матэрыялаў СМІ**

# Тэст на талерантнасць

***Грэка-католікі звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі з просьбай паспрыяць у пабудове грэка-каталіцкага храма ў сталіцы. Зварот падпісалі вядомыя беларуская дзеячы культуры і мастацтва: Уладзімір Арлоў, Анатоль Грыцкевіч, Юры Хадыка, Вячаслаў Сіўчык і многія-многія іншыя мінчане.***

***«Мы, грэка-каталікі Мінсква, вельмі хочам, каб наш храм быў пабудаваны на месцы былой царквы Святога Духа, уніяцкай святыні, узведзенай напрыканцы 16 ст. Царква Святога Духа знаходзілася на цяперашняй плошчы Свабоды. У 1936 г. яе ўзарвалі. Цяпер на месцы царквы нямі ніякіх будынкаў...», — пішуць аўтары звароту.***

Візіт у Беларусь дзяржаўнага сакратара папы рымскага кардынала Тарчызіё Бэртонэ быў сапраўдным падарункам і для мінскіх грэка-католікаў (уніятаў).

І пры царскай, і пры савецкай уладзе Грэка-Каталіцкая Царква была забаронена. Прыналежнасць да яе з'яўлялася злачынствам. Толькі са з'яўленнем адноснай рэлігійнай свабоды уніяты змаглі выйсці з падполля, заявіць пра сябе ўголас. 11 сакавіка 1990 г. ў Мінску ўпершыню за 151 год была адслужаная Літургія ў візантыйскім абрадзе з малітваю аб здароўі папы рымскага.

За гэтыя 19 год дзе толькі не служылі мінскія уніяты! І ў «чырвоным кутку» ЖЭСа па вуліцы Прытыцкага (там віталі Апостальскага Нунцыя), і ў падвале крамы па праспекце Прытыцкага (там прымалі аднаго з біскупаў Украінскай Грэка-Каталіцкай Царквы), і ў іншых непрыдатных памяшканнях. Нарэшце, браты рыма-католікі дазволілі ім служыць у падвальный капліцы Чырвонага касцёла і ў салезіянскай капліцы па вул. Пляханава, Але, як мы ведаем, па нядзелях рымакаталікам і самім цесна ў сваіх бажніцах.

Візіт у 2008 г. ў Беларусь кардынала Тарчызіё Бэртонэ даў магчымасць мінскім грэка-католікам хоць разок уздыхнуць з палёгкай. Паколькі ў праграму візіта была ўключана сустрэча Яго Эмінэнцыі з прадстаўнікамі грэка-каталіцкай супольнасці, мінская гарадская ўлада дала дазвол на правядзенне набажэнстваў у капліцы парафіяльнага дома па вул. Арджанікідзе, 6.

Мала таго, гэтаму парафіяльнаму дому, з нагоды візіта кардынала Тарчызіё Бэртонэ, быў нададзены статус Грэка-Каталіцкага цэнтра імя Святога і Праведнага Язэпа.

Вернікі з парафіі Святога Язэпа, якія нямала папрацавалі ў гэтым доме, да самага візіта дзяржаўнага сакратара папы рымскага жылі ў паняверцы, бо мелі перад сабою прыклад парафіі Іконы Маці Божай Нястомнай Дапамогі. Гэтая парафія раней пабудавала свой дом у завулку Снежным, 7. Улады Фрунзенскага раёна г. Мінска (пажарная, санітарная службы, архітэктар і г. д.) знаходзілі розныя прычыны ды зачэпкі і забаранялі вернікам праводзіць набажэнствы ў капліцы гэтага парафіяльнага дома. Нарэшце, дзяржаўная мудрасць выдала вердыкт: па буднях служыць можна, па нядзелях і святах — не. Марна шукаць у гэтым рашэнні нейкай здаровай логікі.

Што такое капліца ў парафіяльным доме? Гэта невялікае памяшканне. Калі збіраецца пад 50 чалавек, становіцца калі не цесна, дык даволі цеснавата. Але нават такое памяшканне мае толькі адна парафія ў Мінску. Другая парафія, як сказана, можа выкарыстоўваць сваю капліцу для набажэнстваў толькі па буднях. Дзве іншыя (а па нядзелях і тры) парафіі «кватаруюць» у рыма-католікаў.

Зусім відавочна, што наспела вострая неабходнасць пабудаваць у Мінску «нармальную» царкву, храм.

Усе гэтыя амаль 19 гадоў мінская гарадская ўлада карміла уніятаў абяцанкамі.

Спачатку, каб сутыкнуць грэка-католікаў з рыма-католікамі, яна паабяцала уніятам касцёл Святога Язэпа, дзе знаходзіцца, у прыватнасці, Беларускі дзяржаўны музей-архіў літаратуры і мастацтва (вул. Кірылы і Мяфодзія, 4). Потым улада выдзеліла пляц пад будаўніцтва новай царквы. На гэтым пляцы быў нават устаноўлены і асвечаны крыж (гл. здымак у газеце «Царква», № 1 за 2009 г.). Але, як вядома, улада — гаспадар свайго слова: дала яго і забрала назад.

Зразумела, мінская гарадская ўлада, нават калі б і вельмі хацела, ніколі не асмелілася б даць дазвол на будаўніцтва грэка-каталіцкай царквы, бо, паўторым, у нашай краіне дзейнічае непісанае правіла, парушыць якое — значыць выступіць супраць вярхоўнай улады.

Менавіта беручы пад увагу гэтыя абставіны, свецкія грэка-католікі г. Мінска і звярнуліся да Аляксандра Лукашэнкі як да найвышэйшай і апошняй інстанцыі, бо толькі адзін А. Лукашэнка можа парушыць непісанае правіла і вырашыць пытанне аб пабудове ў сталіцы Беларусі уніяцкага храму.

Мінскія грэка-католікі жадаюць, каб грэка-каталіцкі храм быў узведзены на месцы першай уніяцкай святыні, пабудаванай у 1598 г. пры мітрапаліце Міхаілу Рагозу.

Менавіта тут, на Верхнім рынку, паўстала арыгінальная з мастацкага гледзішча святыня ў імя Святога Духа. Пазней — пры мітрапалітах Іосіфу Руцкім і Антонію Сяляве — тут былі заснаваныя мужчынскі і жаночы манастыры Ордэна св. Васіля Вялікага. Праваслаўныя не мелі да ўзвядзення гэтых будынкаў ніякіх адносін.

У XVII–XVIII стст. у раёне Верхняга і Ніжняга рынкаў у Мінску знаходзіліся уніяцкая царква Святога Духа з манастырамі, бернардынскія мужчынскі і жаночы манастыры з касцёламі, езуіцкі манастыр з касцёлам (цяперашняя архікатэдра), праваслаўная царква Пятра і Паўла з мужчынскім і жаночым манастырамі. Непадалёк ад іх былі татарскія агароды і мячэт (цяпер на гэтым месцы гасцініца «Юбілейная») і знакамітая Халодная сінагога (цяпер яе няма).

Як бачым, стары Мінск быў поліканфесійным горадам. За царскім і бальшавіцкім часам гэтая поліканфесійнасць была ліквідавана. Ці будзе яна хоць часткова адноўлена ў XXI стагоддзі — пакажа адказ на зварот мінскіх грэка-католікаў да А. Лукашэнкі.

Зварот мінскіх грэка-католікаў да А. Лукашэнкі — гэта сапраўды тэст на талерантнасць.

**Пётра ПІНЧУК.**



*Царква Св. Духа ў Мінску, рэканструкцыя В. Сташчанюка.*

# «Новае Жыццё» адмовілася ад прапановы Мінгарвыканкама

## Нягледзячы на гэта камунальныя службы патрабуюць вызваліць будынак царквы

Напачатку траўня дырэктар Жыллёвага рамонтна-эксплуатацыйнага аб'яднання Маскоўскага раёна г.Мінска Д.Т. Шашок апавясціў царкву «Новае Жыццё» пра тое, што абшчыне «неабходна да 01.06.2009 г. прыняць меры па перадачы дакументаў, што даюць царкве права займаць памяшканне, і падпісаць акт прыёмкі-перадачы дадзенага памяшкання (будынка царквы «Новае Жыццё» — *заўв.рэд.*), а таксама вызваліць гэта памяшканне. У выпадку добраахвотнага невыканання вышэйназваных рашэнняў па дадзенай справе аб'яднанне будзе вымушана прыняць меры па ўрэгуляванні дадзенага пытання ва ўсталяваным дзейсным заканадаўствам парадку».

Начальнік юрыдычнага аддзела ЖРЭА Маскоўскага раёна Людміла Булыга ў тэлефоннай гутарцы пракаментавала дадзеную сітуацыю наступным чынам: «Ім трэба вызваліць памяшканне і зямельны ўчастак у сувязі з тым, што ідзе нямэтавае выкарыстанне. Пастановы суда будуць выконваць судовыя выканаўцы, якія могуць прыцягваць праваахоўныя органы».

5 траўня ў царкве Новае Жыццё на агульным сходзе абмяркоўвалася прапанова Мінгарвыканкама пра ўзвядзенне новага будынка царквы ў раёне МКАД (вуліца Шаранговіча) на зямельным участку плошчай каля 0,4 гектара. Вернікі абшчыны аднагалосна выказаліся супраць прапановы гарадскіх улад. Сваю пазіцыю пратэстанты матывавалі тым, што для вырашэння пытання пра выдзяленне зямельнага ўчастка абшчыне неабходна ажыццявіць шэраг узгадненняў, для чаго запатрабуецца ад палутара да двух гадоў і не меней за 100 тыс. долараў ЗША. Для ўзвядзення новага храма спатрэбіцца ад 3 да 5 млн. долараў. Больш таго, гарантый, што гэты ўчастак перададуць царкве, улады не даюць.

Найлепшае выйсце з сітуацыі вернікі бачаць у будаўніцтве новага сучаснага храма на зямельным участку, раней вылучаным абшчыне, дзе ў наш час знаходзіцца будынак царквы.

У сярэдзіне траўня ў ЖРЭА Маскоўскага раёна прыйшло распараджэнне з Мінгарвыканкама прыняць на баланс будынак па адрасе вул.Кавалёва, 72 у сувязі з тым, што «кошт гэтага будынка ўжо выплачана царквой «Новае Жыццё». Прадстаўнікі ЖРЭА наведалі царкву 19 траўня. Начальнік аддзела нежылога фонду Ерафееў В.П. паведаміў, што на адрас царквы высланы ліст з патрабаваннем неадкладна вызваліць будынак. Таксама чыноўнік праінфармаваў, што ў любым выпадку ЖРЭА будзе вымушана прадпрымаць меры да выканання гэтага распараджэння.

Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International выказала сваю падтрымку вернікам абшчыны «Новае Жыццё». 26 траўня пастар Вячаслаў Ганчарэнка сустрэўся з прадстаўнікамі Amnesty International. Праваабаронцы паведамілі, што заходняя грамадскасць сочыць за развіццём падзей паабяцалі аказваць царкве «Новае Жыццё» інфармацыйную і маральную падтрымку.

**Ядзвіга МАЦКЕВІЧ.**

# Беларускія ўлады аб'яўляюць вайну экстрэмізму, у тым ліку і рэлігійнаму. Чаму занепакоены праваабаронцы?

## Каментар юрыста Дзіны Шаўцовай

***19–20 траўня ў Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі прайшоў семінар па пытаннях рэлігійнага экстрэмізму, што ў святле апошніх падзей і планаваных законапраектаў прымае форму аб'явы вайны «недзяржаўным» рэлігіям і вераванням.***

У рамках мерапрыемстваў быў запланаваны выступ вядомага сектазнаўцы прэзідэнта Еўрапейскай федэрацыі цэнтраў па даследаванню і інфармаванню пра сектанцтва Фрыдрыха Грыса. Ён прачыў у Мінску некалькі лекцый і прыняў удзел у семінары.



«19 траўня ў Мінск прыбудзе адзін з самых вядомых сектазнаўцаў Еўропы, прэзідэнт ФЕКРІС Ф.Грыс, які прачытае некалькі лекцый і дасць прэс-канферэнцыю», — паведаміў агенцтву «Інтэрфакс-Захад» кіраўнік Інфармацыйна-кансультатыўнага цэнтра ім. Іосіфа Валацкага пры Беларускім экзархаце Уладзімір Марцінавіч.

За каментарам для бюлетэня «За свабоднае веравызнанне» мы звярнуліся да юрыста Дзіны Шаўцовай:

— Спрэчная і невыразная сама тэрміналогія, у прыватнасці, напаўненне паняцця «секта» і ўключэнне ў лік «сект», напрыклад, баптыстаў, пяцідзесятнікаў і прадстаўнікоў іншых рэлігійных вучэнняў. Гэта сур'ёзная праблема, паколькі такая тэрміналогія, якая ўжываецца да неправаслаўных рэлігійных арганізацый, сее варожае стаўленне.

Прылічэнне да «сект» некаторых пратэстанцкіх дэнамінацыі прысутнічае ў спісе, змесцаваным на сайце sobor.by. Складальнікі спісу змяшчаюць іх пад назвай НРР, г.зн. «новыя рэлігійныя рухі, культы і секты».

Вось яшчэ цытата з гэтага інтэрнэт-рэсурсу: «Усе ніжэйзгаданыя групы могуць быць аднесены да разраду сект і культаў не толькі з пазіцый сацыялогіі рэлігій, але таксама і з багаслоўскага пункта гледжання, г.зн. на падставе аналізу іх вучэння ці культавай практыкі параўнальна з веравучэннем і практыкай Праваслаўнай Царквы. Усе паслядоўнікі дадзеных арганізацый не з'яўляюцца і не могуць лічыць сябе членамі Праваслаўнай Царквы па прычыне падзялянага імі светапогляду. Любыя заявы арганізатараў і кіраўнікоў ніжэйпералічаных арганізацый пра іх сувязь з Праваслаўнай Царквой і адпаведнасці іх вучэнняў веравучэнню Праваслаўнай Царквы, а таксама пра атрыманыя імі дабраславенствы на дзейнасць не адпавядаюць рэчаіснасці».

Далей аўтар прыходзіць у сваіх развагах да наступнага:

«На жаль, падобнае ж меркаванне адносна галоўнай мэты місіі Царквы існуе і ў праваслаўным асяроддзі. Секты могуць прапанаваць чалавеку ўсё, што ён толькі пажадае, усё, да чаго толькі зможа дадумацца яго розум, акрамя аднаго — волі. Секта па вызначэнню не можа расчыніць перад чалавекам усіх маштабаў і перспектыў гэтага невымерна каштоўнага скарбу, падараванага чалавецтву Богам, і поўнасць усведамлення якога можа прыйсці толькі ў Царкве. Таму першарадная задача праваслаўнага місіянера складаецца не столькі ў тым, каб адразу прывесці чалавека ў Царкву, але ў давядзенні яго да разумення сваёй волі і яе Крыніцы».

Асноўная праблема, як мне бачыцца, злучана з тэрмінам «секта».

Большасць рэлігіяведаў даўно пагадзілася з тым, што дадзены тэрмін павінен быць выключаны з ужывання пры вызначэнні якіх-небудзь рэлігійных арганізацый, паколькі яго штодзённае напаўненне і ўспрыманне мае негатыўную афарбоўку.

Спачатку негатыўны тэрмін «секта» сцвярджаецца ва ўжытку СМІ, а потым на такія вось матэрыялы спасылаюцца як на аўтарытэтную крыніцу, якая апраўдвае правільнасць тэрміна.

Задуманае праваслаўнай канфесіяй збіранне матэрыялаў пра «секты» стварае ў звычайных людзей разуменне, што дадзеная канфесія мае «праўдзівае» меркаванне пра «правільныя» і «няправільныя» рэлігійныя арганізацыі, тым самым уносіцца падзел паміж людзьмі, якія вызнаюць розныя рэлігійныя перакананні. А кожны мае права выбіраць. Правамерна можна разважаць толькі пра негатыўныя, з пункту гледжання заканадаўства, наступствы пэўнай культавай практыкі.

# Рэлігійная сітуацыя ў Рэспубліцы Беларусь у 2008 годзе

***Беларускі Закон «Пра свабоду сумлення і рэлігійныя арганізацыі» дэкларуе свабоду веравызнання, але на самой справе ўлады абмяжоўвалі гэта права. Хоць Канстытуцыя гарантуе роўнасць канфесій перад законам, але яна ж утрымлівае і абмежавальныя фармулёўкі, у адпаведнасці з якімі супрацоўніцтва паміж дзяржавай і рэлігійнымі арганізацыямі «рэгулюецца законам з улікам іх уплыву на фармаванне духоўных, культурных і нацыянальных традыцый беларускага народа».***



У 2008 годзе ў Беларусі ўрад па-ранейшаму ўжываў абмежавальныя палажэнні закона аб рэлігіях ад 2002 года, каб ускладніць ці прадухіліць дзейнасць арганізацый, што не адносяцца да Беларускай праваслаўнай царквы (БПЦ). У прыватнасці, закон абмяжоўвае магчымасць рэлігійных арганізацый ажыццяўляць рэлігійную адукацыю, адначасова надзяляючы БПЦ прывілеямі, якімі не могуць карыстацца іншыя рэлігійныя групы. Тлумачэннем можа служыць той факт, што БПЦ з'яўляецца экзархатам Рускай праваслаўнай царквы і адзінай афіцыйна прызнанай у краіне праваслаўнай дэнамінацыяй. Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Г.Лукашэнка назваў БПЦ «галоўным ідэолагам нашай дзяржавы», сцвярджаючы, што «мы ніколі не адлучалі сябе ад царквы», і паабяцаўшы, што ўрад будзе дапамагаць царкве «служыць айчыне і народу». Аднак нягледзячы на прывілеяваны статут БПЦ, урад часам папярэджваў лідэраў царквы пра недапушчальнасць іх «празмернага ўплыву».

Усімі пытаннямі рэлігій у рэспубліцы ведае Апарат упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцяў пры Савеце міністраў (АУСРН). У адпаведнасці з законам, рэлігійныя арганізацыі абавязаны праходзіць рэгістрацыю або ў АУСРН, або ў мясцовых і абласных органах улады. Рэгістрацыі ў якасці рэлігійных абшчын падлягаюць групы, якія налічваюць не меней за 20 вернікаў. У ліку груп, якія падпадаюць пад абмежавальнае дзеянне гэтага палажэння, знаходзіцца прыход пяцідзесятнікаў, у якім толькі 13 дарослых вернікаў.

На працягу года АУСРН адмаўляўся рэгістраваць некаторыя нетрадыцыйныя рэлігійныя групы, у выніку чаго іх сходы лічыліся незаконнымі. У студзені 2007 г. АУСРН паведамляў пра наяўнасць 3 101 афіцыйна зарэгістраваную рэлігійную абшчыну 25 рэлігійных дэнамінацый.

Ведамства па справах рэлігій па-ранейшаму адмаўляла ў рэгістрацыі тым абшчынам, якія, на яго думку, вызнаюць нетрадыцыйныя вераванні, галоўным чынам пратэстанцкім групам, напрыклад, царкве «Новае жыццё» і Беларускай Евангельскай царкве. Большасць хрысціянскіх абшчын выступала за ўнясенне змен у закон аб рэлігіях ад 2002 года, які абмяжоўвае дзейнасць абшчын і стварае магчымасці для іх праследу ў крымінальным парадку за рэлігійныя перакананні.

2 сакавіка 2008 г. Канстытуцыйны суд Беларусі не прыняў хадайніцтва, якое суправаджалася 50 000 подпісаў, пра ўнясенне змен у асноўныя абмежавальныя палажэнні закона аб рэлігіі. Суд зазначыў, што толькі прэзідэнт і службовыя асобы ўрада могуць ініцыяваць разгляд пытанняў пра адпаведнасць законаў Канстытуцыі.

У адпаведнасці з законам, набажэнствы можна праводзіць у жылых памяшканнях толькі ў тым выпадку, калі памяшканні афіцыйна выведзены з жылога фонду, што патрабуе перарэгістрацыі маёмасці ўсіх рэлігійных арганізацый. Аднак паколькі ўлады адмаўлялі ў перарэгістрацыі шматлікім пратэстанцкім цэрквам і прадстаўнікам іншых нетрадыцыйных вераванняў, гэтыя абшчыны часта збіраліся нелегальна ці дома ў кагосьці з вернікаў.

25 лістапада 2008 г. Вышэйшы гаспадарчы суд зноў адклаў разгляд скаргі царквы «Новае жыццё» супраць гарадскіх улад Мінска, пададзенай у сувязі з канфіскацыяй зямлі і будынкі царквы (рашэнне было прынята яшчэ ў 2005 г.). Гаспадарчы суд ніжэйшай інстанцыі вынес пастанову на карысць гарадскіх улад, загадаўшы царкве прадаць будынак гарадскім уладам за суму, меншую ягонага рынкавага кошту. У верасні гарадскія ўлады прапанавалі царкве іншы ўчастак зямлі — у чатыры разы меншы за цяперашні, і царква адхіліла прапанову.

Закон дазваляе грамадзянам збірацца ў прыватных дамах для малітвы, але для правядзення рытуалаў, абрадаў ці цырымоній неабходна атрымліваць дазвол мясцовых улад. Неаднаразова на працягу года міліцыя ўмешвалася ў правядзенне рэлігійных сходаў у прыватных дамах і часам арыштоўвала і штрафавала ўдзельнікаў.

За незаконнае правядзенне набажэнстваў баптыстам, пяцідзесятнікам і іншым пратэстантам выносілі папярэджанні ці накладалі штрафы. Абвінавачванні былі стандартныя: парушэнне грамадскага парадку ці незаконнае правядзенне сходаў без папярэдне атрыманага дазволу.

28 красавіка і 9 чэрвеня 2008 г. пастара-пяцідзесятніка Валянціна Баравіка абвінавацілі ў кіраўніцтве дзейнасцю незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі. Яго аштрафавалі на 140 000 беларускіх рублёў (65 даляраў) першы раз і на 315 000 беларускіх рублёў (146 даляраў) другі раз.

Савет міністраў Беларусі прыняў дырэктыву, у якой пералічаны падставы для адмовы ў праве на ўезд святарам-грамадзянам замежных дзяржаў і асобам без грамадзянства, запрошаным мясцовымі рэлігійнымі арганізацыямі. Сярод гэтых падстаў ёсць і пункт пра падачу няпэўнай інфармацыі ў дакументах на ўезд, няведанне беларускай ці рускай мовы, здзейсненае раней адміністрацыйнае правапарушэнне і любая папярэдняя адмова ў праве на ўезд у краіну. Замежных рэлігійных лідэраў таксама абавязалі падаваць большую колькасць дакументаў, што значна ўскладняе працэдуру атрымання ўязной візы.

17 снежня 2008 г. траім каталіцкім святарам, якія працавалі ў Гарадзенскай дыяцэзіі, адмовілі ў падаўжэнні дазволаў на рэлігійную дзейнасць. Улады сцвярджалі, што святары недастаткова добра валодаюць дзяржаўнымі мовамі краіны, хоць святары працавалі тут на працягу многіх гадоў.

Замежных грамадзян, што афіцыйна знаходзяцца ў краіне па абставінах, не звязаных з рэлігійнай дзейнасцю, могуць папярэджваць ці высылаць за ўдзел у рэлігійнай дзейнасці.

**Паводле матэрыялаў даклада Дзяржаўнага дэпартамента ЗША**

# У Львове адбыўся семінар на тэму свабоды веравызнання

**25–30 траўня 2009 г. ў Украінскім каталіцкім універсітэце Львова адбыўся семінар на тэму «Свабода веравызнання як права чалавека», арганізаваны Сусветнай студэнцкай хрысціянскай федэрацыяй (Еўрапейскі рэгіён). У семінары ўзялі ўдзел 25 маладых хрысціян і даследчыкаў рэлігіі з Арменіі, Балгарыі, Венгрыі, Велікабрытаніі, Грузіі, Румыніі, Украіны, Фінляндыі, а таксама група ўдзельнікаў з Беларусі. Сітуацыя са свабодай сумлення ў гэтай краіне была адным з фокусаў дадзенага семінару. Сярод асноўных дакладчыкаў былі Святлана Тымчанка, трэнер па правах чалавека Рады Еўропы (Human Rights Education Network), Джэральдзіна Фэган, супрацоўніца Службы навін Форуму 18, якая распавяла пра маніторынг парушэнняў правоў чалавека ў галіне свабоды веравызнання, а таксама выступіла экспертам па рэлігійнай сітуацыі ў Беларусі і Расеі; Дзіна Шаўцова, адна з кіраўнікоў ініцыятывы «За свабоднае веравызнанне» з Беларусі, у дакладзе якой асноўная ўвага была нададзеная прававым падмуркам свабоды сумлення і дзейнасці рэлігійных арганізацый у Рэспубліцы Беларусь, а таксама хрысціянскаму супрацоўніцтву і салідарнасці ў справе абароны свабоды сумлення; Крыса Хоўсана, англіканскага святара і ўдзельніка шматлікіх грамадзянскіх кампаній у Велікабрытаніі, які падзяліўся сваімі думкамі наконт багаслоўскіх падмуркаў грамадзянскай актыўнасці хрысціян і досведам хрысціянскага негвалтоўнага дзеяння.**



У межах семінару адбыўся круглы стол, у якім прынялі ўдзел Ёўа Вуорынен, рэгіянальны сакратар ССХФ (Е), магістр праваслаўнага багаслоўя з Фінляндыі, якая распавяла пра экуменічны дыялог у Фінляндыі, а таксама пра становішча дзяржаўных — Праваслаўнай і Евангельска-Лютэранскай Цэркваў — і іншых рэлігійных супольнасцей у Фінляндыі; Іраклій Цахадзэ, адзін з кіраўнікоў грузінскай хрысціянскай арганізацыі «Хрысціянскія студэнты за мір і дэмакратыю» і Мірыям Гаўтадзэ, супрацоўніца офісу амбудсмана па пытаннях рэлігійных меншасцей у Грузіі, якія распавялі пра сітуацыю з неправаслаўнымі веравызнаннямі ў гэтай краіне, а таксама пра пазіцыю Праваслаўнай Царквы ў дачыненні да рэлігійных меншасцей; Камелія Слаўчава, аспірантка Сафійскага універсітэта, якая даследуе свабоду веравызнання і царкоўна-дзяржаўныя дачыненні, і Барыс Бучвараў, вернік альтэрнатыўнай Балгарскай Праваслаўнай Царквы, якія распавялі аб рэлігійнай сітуацыі ў сваёй краіне, аб становішчы альтэрнатыўных праваслаўных груп і іншых веравызнанняў; Андрэй Кім, былы палітвязень і хрысціянін-пратэстант з Беларусі, і Наталля Васілевіч, палітолаг, галоўны рэдактар беларускага хрысціянскага парталу «Царква», якія звярнулі ўвагу на асаблівасці беларускага заканадаўства датычна свабоды сумлення, распавялі аб экуменічным руху ў Беларусі, а таксама аб асобных выпадках пераследу рэлігійных груп у Беларусі.

Семінар праходзіў у межах праграмы ССХФ (Е), якая носіць назоў Lingua Franca. Першапачаткова гэта быў моўны трэнінг для студэнтаў-хрысціян з Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, пазней ён стаў уключаць і кампаненты трэнігу па правах чалавека. Цяпер жа ўсе ўдзельнікі мелі мажлівасць пазнаёміцца з асаблівасцямі рэлігійнай лексікі ў ангельскай мове, з асобнымі выразамі, якімі па-ангельску апісваюцца розныя рэлігійныя аб’екты і феномены, а таксама з прававой лексікай, датычнай свабоды сумлення.

Удзельнікі вучыліся правільна складаць і афармляць па-ангельску лісты ў падтрымку цэркваў, што церпяць пераслед, а таксама петыцыі супраць парушэння свабоды сумлення. Андрэй Кім расказаў пра кампанію «Напішы ліст палітвязню», якую ён арганізоўваў у 2007 і 2008 г., падзяліўся сваім досведам палітвязня, распавёў, як сам атрымліваў у зняволенні лісты падтрымкі, а таксама пра тое, як атрымаў ліст ад Сусветнай хрысціянскай студэнцкай федэрацыі напярэдадні суду.

На заканчэнне семінару ўдзельнікі прынялі рэзалюцыю, у якой, у прыватнасці, была выказана ўпэўненасць у неабходнасці адстойваць свабоду веравызнання, асаблівая ўвага была звернута на сітуацыю ў Беларусі, дзе «заканадаўства выкарыстоўваецца як сродак уціску цэркваў, рэлігійных меншасцяў і наогул усіх, хто змагаецца за іх правы».

***Даведка.*** *Сусветная студэнцкая хрысціянская федэрацыя (World Student Christian Federation) — найстарэйшая экуменічная арганізацыя ў свеце, заснаваная ў 1895 г. Яна аб’ядноўвае студэнцкія хрысціянскія рухі больш за 100 краінаў з усяго свету. ССХФ адыграла выключную ролю ў заснаванні ў 1948 г. Сусветнай рады цэркваў. Да Кастрычніцкай рэвалюцыі федэрацыя значна паўплывала на развіццё рускага хрысціянскага студэнцкага руху. Еўрапейскі рэгіён федэрацыі — адзін з шасці рэгіёнаў, які яб’ядноўвае 23 нацыянальныя студэнцкія хрысціянскія рухі ў 18 карінах Еўропы.*

**«Царква»**

***Бюлетэнь «За свабоднае веравызнанне»***
***Bulletin of «For free Denomination»***
**№ 23, April — June 2009.**
**Наклад 299 экземпляраў.**
**Паштовы адрас: 220012, а/с 101, Мінск, Беларусь.**
**E-mail: religionfreedom@tut.by**
**www.forreligiousfreedom.info**
**Тэл. (+375 17) 282–42–10.**